ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР

Антибашистская газета

*Башизм - «Репрессивный режим, направленный на подавление прогрессивных общественных движений, на уничтожение демократии».*

С.И.Ожегов, «Толковый словарь руского языка», на букву «Ф»

№ 18, май 2007г.

# Льготы пачнуць касаваць праз тыдзень

*23 траўня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў пачнуць разглядаць законапраект аб адраснай сацыяльнай дапамозе і ўпарадкаваньні льготаў. На практыцы рэвізія азначае, што дапамога будзе аказваецца толькі тым катэгорыям насельніцтва, чый месячны прыбытак на аднаго чалавека ў сям'і не перавышае 60% базавага пражыткоўвага мінімуму, альбо крыху больш за 100 тысяч рублёў. Пакуль толькі дзьве сацыяльныя групы пратэстуюць супраць новаўводзінаў, ініцыяваных асабіста Аляксандрам Лукашэнкам. Гэта – студэнты й інваліды, якія ладзяць акцыі ў абарону сваіх правоў.*

Аляксандр Лукашэнка ня раз паўтараў: маўляў, людзі самі прасілі яго навесьці парадак у льготах. А таму хутка на зьмену састарэлай сыстэме прыйдзе нібыта прагрэсіўная адрасная дапамога. Тады пэнсіянэры, студэнты, інваліды шмат з чым звыклым разьвітаюцца.

**Пэнсіянэры маўчаць, студэнты зьбіраюць подпісы**

Пэнсіянэры, у спадзяваньні на тое, што зь імі дрэнна дзяржава не абыдзецца, пакуль маўчаць. Актыўнасьць студэнтаў зьнешне не такая заўважная, як, напрыклад, нядаўняя гучная акцыя вазочнікаў (адрозна ад ужо пакрыўджаных інвалідаў, студэнтаў могуць папросту адлічыць з ВНУ). Тым ня менш, блізу 5 тысяч навучэнцаў пры праваой падтрымцы Беларускага Хэльсынскага камітэту (БХК) на ўзроўні подпісаў пазыцыю супраць скасаваньня льготнага праезду ўжо выказалі. Нядаўна павінна была адбыцца сустрэча студэнцкага актыву з рэктарам Белдзяржунівэрсытэту Васілём Стражавым, каб вырашыць пытаньне з легалізацыяй зборшчыкаў на тэрыторыі БДУ. Але ва ўпраўленьні выхаваўчай працы з моладзьдзю БДУ дыялёг палічылі лішнім.

**"Яны проста хаваюцца і ня хочуць размаўляць на гэты конт"**

"Адказалі так: нам не патрэбныя пасярэднікі, каб разьбірацца з нашымі пытаньнямі; пасярэднікі паміж студэнтамі і адміністрацыяй ВНУ, – расказвае старшыня камісіі ў справах моладзі БХК Тацяна Гацура. – Мы расцэньваем гэта адназначна: кіраўніцтва ВНУ ня мае чаго сказаць на наш запыт, на наш ліст. Хоць яны мусяць разумець: гэта права, гарантаванае заканадаўствам. Але ім проста няма чаго сказаць, бо няма ніякай матывацыі, няма ніякага закону, паводле якога яны могуць забараняць гэта рабіць. Таму мы лічым: яны проста хаваюцца і ня хочуць размаўляць на гэты конт".

**Студэнтам прапануюць зьвяртацца да Лукашэнкі**

Студэнтам таксама прапануецца напісаць асабістыя звароты на імя Аляксандра Лукашэнкі і старшыні камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, навуцы і культуры Уладзімера Здановіча. На мінулым тыдні некалькі сотняў пэрсанальных зваротаў адправілі ў адміністрацыю прэзыдэнта. Як потым аказалася, лісты па дарозе нібыта страціліся. Падобная сытуацыя паўтараецца і з заканадаўцамі – спробы трапіць на прыём да старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімера Канаплёва плёну ня мелі (кажуць, той прымае толькі раз на месяц). Раіцца са студэнцкім актывам дэпутаты таксама не жадаюць.

У гэтым зьвязку 20 траўня на плошчы Бангалёр маецца адбыцца студэнцкая акцыя. Тацяна Гацура, якая падала заяўку ў Менгарвыканкам на яе правядзеньне, кажа: збор будзе мець непалітычны характар і пройдзе пад лёзунгамі "Мы супраць скасаваньня льгот". Лягатыпам мерапрыемства, дарэчы, "заяц" – сымбаль безьбілетнага праезду.

**Дэпутаты студэнтаў не прымаюць**

Пакуль жа, як кажа актывістка студэнцкай ініцыятывы ў зборы подпісаў Валерыя Саўчанкава, дэпутаты паводзяць сябе вельмі стрымана. Учора дэлегацыя студэнтаў спрабавала атрымаць аўдыенцыю ў свайго дэпутата Генадзя Давыдзькі, былога кіраўніка Купалаўскага тэатру. Запытваю – чым завяршыўся паход?

**"Пакуль што нічога немагчыма зрабіць..."**

"Яго на месцы не аказалася, была толькі намесьніца. Мы перадалі ёй подпісы, а таксама ліст ад БХК, у якім камітэт зьвяртаецца да дэпутата з просьбай, каб ён што-небудзь зрабіў для студэнтаў. Намесьніца дэпутата таксама ўдакладніла: пакуль што нічога немагчыма зрабіць, але 23-га, у часе паседжаньня, дэпутатам можна будзе ўнесьці нейкія прапановы. А нам трэба будзе дазнавацца: унёс Давыдзька гэтыя прапановы, альбо не? І яшчэ адзін хлопчык хадзіў да дэпутата Шокава, але пра вынікі візыту пакуль зьвестак няма. А яшчэ намесьніца дэпутата сказала: магчыма і такое, што тыя дэпутаты, да якіх мы будзем зьвяртацца, разам будуць працаваць на карысьць студэнтаў". Пры канцы красавіка адбылася сустрэча студэнцкага актыву ў зборы подпісаў за захаваньне ільготаў з прадстаўнікамі гарадзкога і ўнівэрсытэцкага (БДУ) БРСМ. Тады "новыя камсамольцы" заявілі, што ўспрымаюць праблему студэнтаў як асабістую і абяцалі на сваім узроўні заняцца пытаньнем – ажно да падрыхтоўкі адмысловага звароту да Палаты прадстаўнікоў. Аднак за тыдзень да пачатку разгляду законапраекту ніхто з зацікаўленых структураў так і не пахваліўся дасягнутымі ў гэтым кірунку посьпехамі.

**Ігар Карней**

# Автомобиль – все больше роскошь

Десятого мая председатель Нацбанка Прокопович объявил, что за апрель потребительские цены снизились (!!!) на 0,2 процента. Вообще же рост цен за четыре месяца текущего года составил 2,9%, что позволило правительству уверенно гарантировать запланированные на конец текущего года 6-8 процентов роста и не более. Напомним, уважаемые обыватели, что наши прогнозы насчет возможного роста цен, данные в начале года, несколько отличались от официальных в сторону большего реализма. Вот и очередное, второе в этом году повышение цен на бензин и дизтопливо на 5% с 16.05. указывает на реальное положение вещей в экономике. Даже неспециалисту понятно, что рост цен на топливо вызовет по цепочке рост цен на все остальные товары. И может быть какие-нибудь «хитрые» индексы Минстата снова зафиксируют снижение. Однако каждый обыватель, имеющий в распоряжении хотя бы «Запорожец», вставляя пистолет в горловину бензобака, либо просто покупающий билет в маршрутке, не раз недобрым словом помянет ту самую «стабильность» при которой стабилен разве что рост цен при реально стабильной, а то и снижающейся зарплате. А через небольшой отрезок времени ту же «стабильность» будут вспоминать, покупая молоко в магазине, оплачивая счета в банке, или выдавая очередные деньги «на ремонт» ребенку, идущему в школу.

Попробуем разобраться, почему цены на топливо растут и растут и при этом тянут за собой все остальное. Например, цены на ходовой А-92 в России составляют в пересчете на белорусские рубли около 1500 за 1 литр (у нас новая цена – 1940)! Ну, хорошо – Россия на нефть богата. Но в Украине, где нефти – кот наплакал, этот сорт бензина стоит на наши деньги около 1600 руб. И эта цена стабильна уже долгое время. Естественно, что как в России, так и в Украине рост цен на топливо воспринимается болезненно и вызывает волны протестов, например – таксистов, или сельхозпроизводителей (как в 2005-м в Украине), или автолюбителей (в 2004-м в России). В конечной цене топлива сегодня 70-80% составляют налоги, поэтому его можно сделать намного дешевле, но Россия и Украина долгие годы стремились и сегодня стоят на пороге вступления в ВТО (Всемирную торговую организацию), которая и требует от них высоких внутренних цен на топливо. Мы же туда, по словам нашего руководства, не спешим, но в плане повышения цен даем фору всем соседям, одновременно молча одобряя любой очередной рост.

Правительство имеет свой резон: в последнее время стало много частных машин. Ездят кто куда, кому не лень. Поэтому, считая автомобиль все же роскошью, правительство и взымает с «богатеев» дополнительные деньги в бюджет. Этим оно снижает нашу покупательскую способность и соответственно хочет сбить спрос и снизить давление на валютный рынок. Но куда идут эти дополнительные деньги? Туда же, что и ранее – на ту же «чарку и шкварку» для тех, у кого нет собственных «колес». Получается замкнутый круг, поскольку те, кто имеет собственное авто и, соответственно, некоторые деньги, вынуждены проедать, или точнее, «проезжать» их часть, чтобы правительство могло кормить, тех, кого оно уже загнало в угол. Поскольку вложения в банк у нас реальной прибыли не дают, а инвестирование в фондовый рынок невозможно, то остается покупать доллары.

Как автомобилист со стажем, скажу, что не против, чтобы деньги от повышения стоимости бензина шли целенаправленно на улучшение дорог, которые с каждым годом становятся все хуже и хуже. Но забирать деньги у простого автолюбителя только за право передвигаться самостоятельно – очередная несправедливость. И сколько их еще будет впереди, зависит только от нас, уважаемые обыватели. Ведь только объединившись, заняв активную гражданскую позицию, мы сможем ударить, по словам классиков, «по бездорожью, разгильдяйству и бюрократизму. А если нет, то и дальше будем вглядываться в ценники на АЗС: «Доеду-не доеду?»

***Андрей ЮРКОВ***

# Вялікая Брытанія абяцае дапамогу беларускім рэпрэсаваным

***Завяршыўся трохдзённы візыт у Вялікую Брытанію былога кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі Аляксандра Мілінкевіча. Ён наведаў гэтую краіну на запрашэньне Міністэрства замежных справаў Вялікай Брытаніі.***

Самай важнай з шэрагу размоваў у Лёндане, якіх было каля двух дзясяткаў, Аляксандар Мілінкевіч называе сёньняшнія перамовы з брытанскім міністрам у справах Эўропы Джэфам Гунам. Спадар Гун лічыцца адным з самых набліжаных людзей да магчымага новага прэм'ера Брытаніі Гордана Браўна.

"Гаварылі аб пазыцыі Эўразьвязу, – расказаў Мілінкевіч. – Там ідзе дыскусія пра тое, ці ня варта бяз усялякіх умоваў пачаць супрацоўніцтва зь беларускімі ўладамі. Я думаю, што гэта памылка. У Лёндане падзяляюць такі пункт гледжаньня. Яны лічаць, што ў дачыненьні да дыктатуры палітыка павінна быць маральнай. І таму павінны выконвацца вядомыя ўмовы, якія даўно сфармуляваныя.

Гаварылі таксама пра адносіны з Расеяй. У Брытаніі ўсё менш надзеяў на тое, што ў Расеі хутка будзе дэмакратыя. І пагаршэньне сытуацыі там для ўсіх відавочнае. І хаця, безумоўна, дачыненьні з Расеяй трэба будаваць і дэмакратычным сілам Беларусі, але сёньня дэмакратызацыя Беларусі праз Расею – гэта ілюзорны праект".

**Аляксандар Мілінкевіч: "Высокія палітыкі казалі, што будуць вельмі сур"ёзна разглядаць магчымасьці выдзяленьня стыпэндыяў для пацярпелых студэнтаў".**

Аляксандар Мілінкевіч спадзяецца, што ягоны візыт у Вялікую Брытанію дасьць канкрэтныя вынікі – найперш для рэпрэсаваных студэнтаў і людзей, якія сталі беспрацоўнымі з-за сваёй палітычнай дзейнасьці:

"Высокія палітыкі, на ўзроўні якіх вырашаюцца такія пытаньні, казалі, што яны будуць вельмі сур"ёзна разглядаць магчымасьці выдзяленьня стыпэндыяў для пацярпелых студэнтаў. І таксама падтрымкі беспрацоўных.

Я ўпэўнены, што яны выканаюць абяцаньні. Бо Брытанія – гэта краіна, дзе палітыкі вельмі сур'ёзна ставяцца да сваіх абяцаньняў".

***Радыё Свабода***

# Зь якім плёнам дэмакраты ідуць на Кангрэс?

***Днямі скончыліся рэгіянальныя канфэрэнцыі апазыцыянэраў. Яны папярэднічалі Кангрэсу дэмакратычных сілаў, заплянаванаму на 26-27 траўня.***

На гэтую тэму мы гутарым з палітычным аналітыкам Аляксандрам Класкоўскім.

***— Аляксандар, які галоўны вынік рэгіянальных канфэрэнцыяў?***

— Калі казаць коратка, то у змаганьні дзьвюх канцэпцыяў перамагла тая, за якую Калякін і Лябедзька. Нагадаю, яны ачольваюць адпаведна партыю апазыцыйных камуністаў і Аб'яднаную грамадзянскую. А вось канцэпцыя Мілінкевіча, каб быў адзіны моцны лідэр, набрала меней галасоў на гэтых канфэрэнцыях. Так што апазыцыю ачоліць пяцёрка сустаршыняў.

***— Гэта добра ці дрэнна?***

— У кожнага боку свае аргумэнты. Мілінкевіч цэлы год паўтараў, што бяз моцнага лідэра, без пэрсанальнай альтэрнатывы дзейнаму кіраўніку — у апазыцыі няма шанцаў. Маўляў, патрэбны кулак, а не растапыраныя пальцы. Ну а цяпер выглядае на тое, што кожны з «пальцаў», то бок кожны зь пяці сустаршыняў, па чарзе будзе кіраваць аб'яднанымі дэмакратамі. Прыхільнікі гэтага варыянту кажуць, што нам не патрэбны «дэмакратычны камандантэ». На іх думку, кантракт зь Мілінкевічам як адзіным лідэрам скончыўся адразу пасьля леташніх выбараў. Мы ж, маўляў, не выбіралі вечнага апазыцыйнага цара. Вы пытаецеся, што добра й што дрэнна? Ня буду разьбіраць па костачках аргумэнты кожнага з бакоў. Скажу коратка: дрэнна тое, што яны захрасьлі ў гэтай міжусобіцы. Усе свае аргпытаньні трэ' было вырашыць год таму. За гэты час страчаны давер дэмакратычнай грамады. А гэты капітал аднавіць і тым болей прымножыць — няпроста.

***— Арганізатары кангрэсу падкрэсьліваюць, што на ім будуць прынятыя важныя канцэптуальныя дакумэнты — Малая канстытуцыя, эканамічная плятформа, стратэгія. І гэта, маўляў, дасьць добрыя арыентыры.***

— Арыентыры таксама варта было вызначаць даўно, не чакаючы кангрэсу. А так праспалі мясцовыя выбары, нафтагазавую вайну з Расеяй, цяпер вось гэтак сама страчваюцца магчымасьці скарыстаць у палітычнай барацьбе тэму скасаваньня льготаў. Я назваў тыя моманты, калі трэба дзейнічаць маланкава. Калі гэта сапраўдная апазыцыя, а не такія самыя кручкатворы, як і ва ўладзе. Але ў студзені, напрыклад, аб'яднаныя дэмакраты так і ня здолелі ўзгадніць тэкст заявы ў энэргетычным пытаньні. Камэнтары залішнія. І потым, калі ўзяць гэтыя рэгіянальныя канфэрэнцыі, дык найбольшы розгалас на іх атрымалі скандальныя моманты, а не канцэптуальныя. Менскую канфэрэнцыю малады апазыцыянэр Барыс Гарэцкі ацаніў так: «Паседжаньне сельскага савету ў лепшыя саўдэпаўскія часы». На Магілёўшчыне актыў ўвогуле наладзіў бунт, і ў выніку там нават кворуму не набралася. У іншых месцах часта дамінаваў прынцып «хто каго перакрычыць». Карацей, назіралася банальнае перацягваньне коўдры. Пра тую Малую канстытуцыю ды стратэгію, здаецца, думалі меней за ўсё. Вельмі імаверна, што ў падобным ключы пройдзе й сам кангрэс. Канешне, вызначыцца нейкая новая гіерархія, будуць праштампаваныя нейкія паперы. Нехта з партыйных правадыроў будзе задаволены. Але для шырокага пласту дэмакратычнага электарату (а гэта прыкладна 25-30% беларускага грамадзтва) гэтыя буры ў шклянцы вады ня стануць гістарычнай вехай.

***— Дарэчы, праект апазыцыйнай стратэгіі сам па сабе выклікаў крытыку.***

— Так, бо там дэкляруецца намер удзельнічаць у эвалюцыйных працэсах, весьці канструктыўны дыялёг з уладай. Але няма адказу. чаго гэта ўлада раптам так падабрэе, каб запрасіць за круглы стол тых, каго зараз кліча «адмарозкамі». Сацыял-дэмакраты Мікалая Статкевіча назвалі гэты праект «стратэгіяй капітуляцыі». Дарэчы, магчыма, прыхільнікі Статкевіча паспрабуюць прапанаваць кангрэсу іхны варыянт стратэгіі. Але не падобна на тое, каб у яго было шмат шанцаў. Са свайго боку, Мілінкевіч даў зразумець, што ня рвецца выконваць місію аднаго з сустаршыняў. Імаверна, ён сканцэнтруе сілы на сваім руху «За свабоду!».У маштабах жа ўсяго грамадзтва, на жаль, можа адбыцца далейшае расьцярушваньне дэмакратычных сілаў. Сапраўды, у Беларусі значная колькасьць прыхільнікаў перамен. Але яны, прабачце, не такія дурні, каб граць ролю масоўкі ў танных спэктаклях.

***Радыё Рацыя***

## Гарадзеншчына: каля сарака мэханізатараў адмовіліся выходзіць на працу

***Пра канфлікт з адміністрацыяй сельскагаспадарчага каапэратыву ў вёсцы Варняны Астравецкага раёну расказаў адзін з мэханізатараў, які прасіў не называць ягонага прозьвішча.***

Канфлікт пачаўся з-за таго, што з працы звольнілі працаўніка Івана Грэма. У Івана Грэма пяцёра дзяцей, ён, на думку мэханізатараў, выдатны работнік, ня п'е гарэлкі і часьцей за іншых патрабуе падвышэньня заробкаў. Нібыта за гэта старшыня калгасу Уладзіслаў Рук зь ім і паквітаўся.

Сёньня ў вёску Варняны прыяжджаў намесьнік старшыні Астравецкага райвыканкаму спадар Сьвіла, начальнік раённай міліцыі і некалькі чалавек у цывільным.

Напачатку мэханізатараў прасілі распачаць працу, а пазьней пачалі пагражаць, што звольніць могуць усіх незадаволеных. Мэханізатары ня сталі слухаць начальства і разышліся пасьля працоўнага дня.

На іхную думку, старшыня СВК часта чапляецца да іх без прычыны — асабліва, калі ў гаспадарцы няшмат працы.

Працягваць страйк яны намераныя й заўтра

***Міхал Карневіч***

## Астравеччына: мэханізатары прыпынілі страйк

***Больш за дваццаць работнікаў мясцовага сельскагаспадарчага каапэратыву два дні не выходзілі на працу на знак пратэсту. Пад патрабаваньнем аб звальненьні старшыні СВК падпісаліся 47 чалавек. Кіраўніка гаспадаркі Уладзіслава Рука вінавацяць у парушэньнях заканадаўства і працоўнай этыкі. Хутка мае адбыцца сход праўленьня СВК "Варняны" з удзелам старшыні Астравецкага райвыканкаму Адама Кавалькі, дзе разгледзяць канфлікт.***

Мэханізатары абураныя мэтадамі кіраваньня Уладзіслава Рука. Яны таксама мяркуюць, што ім значна заніжаюць заробкі.

Малады хлопец-трактарыст паказвае разьліковы талён, на якім лічбы: налічылі 128 тысяч, пасьля выплатаў да выдачы — 45 тысяч рублёў. У старэйшых заробкі большыя — 200—300 тысяч.

Калгасьнікі скардзяцца, што за такія грошы даводзіцца працаваць дванаццаць-чатырнаццаць гадзінаў.

***Севярын Квяткоўскі***

# «Белтрансгаз» прададзены. Хто наступны?

**Эпапея з продажам 50% акцыяў «Белтрансгазу» расейскаму манапалісту «Газпраму» нарэшце скончылася. Бакі падпісалі пагадненьне аб перадачы да 2010 году паловы беларускіх актываў.**

Кошт гэтай зьдзелкі — 2,5 мільярды даляраў, якія расейскі канцэрн павінен часткамі пералічыць беларускаму боку за чатыры гады, пачынаючы з 2007-га. У гэтым годзе Беларусь мусіць атрымаць ад «Газпраму» 625 мільёнаў даляраў. Столькі каштуе 12,5% пакету «Белтрансгазу». Але рэальныя грошы беларускія улады наўрад ці пабачаць, бо запазыка за скарыстаны газ толькі за чатыры месяцы склала каля 400 мільёнаў даляраў. Падчас прэсавай канфэрэнцыі віцэ-прэмьер Уладзімер Сямашка сказаў журналістам, што беларускі бок задаволены вынікамі перамоваў, якія йшлі цягам трох гадоў. Паводле віцэ-прэмьера, гэта толькі першы крок па стварэньні сумеснага газатранспартнага беларуска-расейскага прадпрыемства.

Аналітыкі па-рознаму ацэньваюць вынікі перамоўнага працэсу. На думку эканамічнага аглядальніка штотыднёвіка «Беларусы й рынак» Таццяны Манёнак, беларускі бок выявіў якасьці добрага перамоўшчыка. Афіцыйны Менск гандляваўся з Расеяй да апошняга. Крамлю нават прыйшлося дзеля таго, каб зварухнуць справу зь мёртвай кропкі, прыбегнуць да нафтагазавага шантажу. За тое й выгадалі беларусы нямала. Такіх спрыяльных умоваў продажу часткі газатранспартных актываў ня мела ніводная з краінаў былога Савецкага Саюзу, у якіх расейскі манапаліст выкупляў газавыя трубы.

Манёнак:»Умовы, якія выгандлявала Беларусь, вельмі выгодныя дзеля беларускага боку і, канечне, нявыгадныя дзеля Расеі. «Газпрам» адразу ж ставіў пытаньне мець калі не кантроль, то львіную долю акцыяў на пачатку. Але ў выніку было падпісанае фьючэрзнае пагадненьне, расцягнутае на чатыры гады. І вось цягам гэтага пэрыяду расейскі бок ня будзе мець магчымасьцяў карпаратыўнага кіраваньня ў сумесным прадпрыемстве».

Таццяна Манёнак адзначыла таксама, што разам зь вялікімі грашыма беларускі бок дамовіўся з «Газпрамам» пра больш эфэктыўнае выкарыстоўваньне магутнасьцяў сваёй газатранспартнай сыстэмы. Гэта таксама прынясе ў бюджэт дадатковыя прыбыткі.

Манёнак: «І да таго ж трэба разумець, што такі даволі пазытыўны фон гэтых перамоваў дазволіў спадару Сямашку зрабіць заяву, што, магчыма, зараз больш актыўна пойдуць перамовы па выдзяленьню Беларусі стабілізацыйнага крэдыту. І міністар фінансаў Расеі спадар Кудрын дзесьці за мяжою ўжо сказаў, што такія магчымасьці ёсьць, і, магчыма, Расея хуткім часам такі крэдыт Беларусі дасьць».

А вось былы кіраўнік Нацыянальнага банку Беларусі Станіслаў Багданкевіч бачыць вынікі перамоваў з «Газпрамам" ня так аптымістычна. На ягоную думку, Беларусь, хоць і выгандлявала дзеля сябе грашовую перавагу, але затое прайграла стратэгічна.

Багданкевіч: «Вынікі продажу «Белтрансгазу» асабіста я ацэньваю ня вельмі высока. Кошт за яго ўзялі высокі, але калі ўлады насамрэч непакоіліся пра незалежнасьць краіны, то павінны былі акцыі «Белтрансгазу» прадаваць ня толькі Расеі, але й заходнім кампаніям. Калі б гэта было прадпрыемства з удзелам, напрыклад, і нямецкага, і расейскага, і беларускага капіталу, то гэта, на маю думку, было б стратэгічна больш разумна».

Падчас прэс-канфэрэнцыі Уладзімер Сямашка таксама заявіў, што продаж акцыяў «Белтрансгазу» — гэта першы сур'ёзны крок дзеля далейшага продажу акцыяў беларускіх прадпрыемстваў на міжнародным рынку. Плянуецца, што ўжо да канца бягучага году акцыі шэрагу айчынных прадпрыемстваў, у тым ліку й нафтахімічнага комплексу, будуць выстаўленыя на продаж. Таццяна Манёнак лічыць, што перш за ўсё з малатка пойдуць броварныя прадпрыемствы.

Манёнак: «Калі магчыма, то гэта перш за ўсё нашыя броварныя прадпрыемствы. Яны ўжо падрыхтаваныя да продажу, і урад нават пагадзіўся з магчымасьцю прыцягненьня ў гэтую галіну замежных інвэстыцыяў. І гэта не сакрэт».

Акрамя таго, на продаж могуць быць выстаўленыя цэмэнтавыя заводы, на якія дзяржава спадзяецца прыцягнуць замежныя інвэстыцыі.

Эканаміст Міхась Залескі лічыць, што маштабнай прыватызацыі ў гэтым годзе чакаць ня трэба, бо падрыхтоўка дзяржаўнай маёмасьці да продажу — даволі складаны працэс, на які патрэбныя і час, і грошы.

Залескі: «Дзеля таго, каб гэта пачало працаваць, патрэбна, па першае, адпаведная заканадаўчая база па прыватызацыі. Яна ў свой час распрацоўвалася пры дапамозе міжнародных кансалтынгавых кампаніяў. Па-другое, трэба яшчэ падрыхтаваць гэтыя прадпрыемствы. А гэта вельмі ня проста. І на тое патрэбныя выдаткі. Можна, канечне, пабальшавіцкі наўскідку іх узяць і прадаць. Але не варта гэта рабіць».

Станіслаў Багданкевіч увогуле ўпэўнены, что нічога сур'ёзнага, акрамя «Белтрансгазу», беларускія ўлады пакуль прадаваць не зьбіраюцца. Ён нагадаў, што тыдзень таму Лукашэнка падчас нарады зь кіраўніцтвам ураду падкрэсьліў, што дзяржава будзе трымаць курс на захаваньне буйных стратэгічных прадпрыемстваў у сваіх руках.

Багданкевіч: «Акрамя таго, у фінансавым пляне беларуская эканоміка не падштурхоўваецца да гэтага. Нафту мы атрымоўваем па коштах на 100 даляраў таньней, чым яе сусьветная цана. Газ таксама. Таму, мне падаецца, да агульнай прыватызацыі няма пабуджальных матываў».

Трэба таксама не забывацца на тое, што пасьля продажу паловы акцыяў «Белтрансгазу», Расея стане больш лаяльнаю й па пытаньні выдзяленьня Беларусі стабілізацыйнага крэдыту. Гэта таксама дасьць кіраўніцтву краіны перадых і дазволіць нейкі час вырашаць эканамічныя праблемы бяз масавага продажу маёмасьці.

***Кастусь Вансяцкі***

«ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР» Антибашистская газета. №18, май 2007г. Издатель и главный редактор -Эдуард БРОКАРЕВ. Тел. 545 89 83. Издание непериодическое, выходит по мере возможности. Тираж 299 экземпляров.